Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 21 890.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Пятніца, 24 красавіка 1998 г. № 43 Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Прайшло 12 гадоў пасля чарнобыльскай аварыі



**Заўтра, 25 красавіка, у 16:30 пачнецца жалобнае шэсце Чарнобыльскі шлях-98.**

**Месца збору ўдзельнікаў акцыі — плошча Якуба Коласа. Калона пройдзе па праезнай паласе праспекта Скарыны да цырка, потым зверне на вуліцу Я.Купалы. Завершыцца шэсце мітынгам на плошчы каля Опернага тэатра. Чарнобыльскі шлях дазволены мінскімі ўладамі.**

**Калоны дэманстрантаў выкарыстаюць традыцыйнае мастацкае афармленне. Дзеці панясуць у руках змайстраваных буслікаў, якія сімвалізуюць свабоду і Беларусь. Дарослыя рыхтуюць плакаты «Хто адкажа за смерць нашых дзяцей?», «Далоў Чарнобыль фізічны і духоўны», «Свабоду Шыдлоўскаму і Севярынцу!». На шлях прыедуць прадстаўнікі «чарнобыльскіх» рэгіёнаў, якія будуць мець плакаты з лічбамі радыеактыўнай забруджанасці гарадоў. Абавязковы атрыбут шэсця — чарнобыльскі звон.**

**На правядзенне Чарнобыльскага шляху-98 аргкамітэт прымае добраахвотныя ахвяраванні па адрасе: г.Мінск, вул.Варвашэні, 8.**

***На здымку: Радаўніца на могілках у колішняй вёсцы Даўляды Нараўлянскага раёна.***

## Расійскія антыфашысты супраць дыктатуры ў Беларусі

**«Не — аб'яднанню з дыктатурай Лукашэнкі!» Пад гэткім лозунгам сёння ў Маскве праходзіць пікетаванне беларускай амбасады.**

Апроч 50-ці масквічоў, у ім возьмуць удзел 20 грамадзянаў Беларусі — прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускага Народнага Фронту і сацыял-дэмакратаў. Калі карыстацца беларускімі меркамі, можна сказаць, што мерапрыемства «санкцыяванае»: па расійскіх законах, дазволу ўладаў не патрабуецца — дастаткова проста паведаміць пра акцыю міліцыі.

Сімвалічна выглядае назва арганізацыі, якая ладзіць пікет, — Антыфашысцкае маладзёвае дзеянне. Пасля пікету шэраг сябраў АМД накіруюцца ў Мінск, каб узяць удзел у жалобных мерапрыемствах, прысвечаных 12-й гадавіне чарнобыльскай аварыі.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

**Шаноўныя чытачы! Наступны нумар газеты НАВІНЫ выйдзе ў чацвер, 30 красавіка.**

## Вінаваты не пераходны перыяд

**Праблемам абароны правоў журналістаў у Беларусі быў прысвечаны семінар, які правялі ў Мінску Беларуская асацыяцыя журналістаў і Міжнародная федэрацыя журналістаў.**

Былы член Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў зрабіў аналіз развіцця беларускага заканадаўства аб СМІ, пачынаючы з 1994 г. Ён нагадаў, што ў перыяд перадвыбарчай кампаніі кандыдат у прэзідэнты Лукашэнка абяцаў журналістам забяспечыць свабоду прэсы. Але, атрымаўшы ўладу, ён у шмат разоў узмацніў ціск на незалежную прэсу; што ж тычыцца дзяржаўнай, дык *«усе супрацоўнікі дзяржаўных СМІ з прыходам Лукашэнкі сталі байцамі ідэалагічнага фронту»*. М.Пастухоў скрупулёзна падабраў прыклады супрацьзаконных актаў і дзеянняў, якія дэманструюць *«дыктат выканаўчай улады над СМІ»*.

У іншых краінах, як адзначыў прадстаўнік Савета Еўропы Рудыгер Досаў, таксама здараюцца выпадкі парушэнняў правоў чалавека, але ў параўнанні з Беларуссю, лічыць ён, *«ёсць вялізная розніца і па глыбіні, і па колькасці гэтых парушэнняў». «Можна было б растлумачыць сітуацыю ў Беларусі цяжкасцямі пераходнага перыяду, але ж іншыя постсавецкія і ўсходнееўрапейскія краіны, у тым ліку суседзі Беларусі, гэтыя цяжкасці ў асноўным ужо пераадолелі»*, — падкрэсліў прадстаўнік Савета Еўропы.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Польшча навучыць?

**Палітычнага прытулку ў Польшчы папрасіў актывіст Маладога Фронту з Магілёва 18-гадовы Ясь Абадоўскі.**

Як паведаміў ягоны бацька Сяргей Абадоўскі, ён павёз сына ў Польшчу, каб уладкаваць яго там на вучобу. Ясь вучыўся раней у Магілёўскім машынабудаўнічым інстытуце, прычым на платнай форме навучання. Але за палітычную дзейнасць хлопец быў летась выключаны з інстытута, а нядаўна адседзеў 15 сутак за ўдзел у шэсці маладафронтаўцаў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Лёзненскія партызаны

**Дзёрзкую акцыю правялі ў ноч з нядзелі на панядзелак невядомыя апазіцыянеры ў райцэнтры Лёзна Віцебскай вобласці.**

Як нам паведаміў кіраўнік віцебскай філіі Фонду падтрымкі незалежнай прэсы Юрась Карпаў, землякі легендарнага Мірона аблілі чырвонай фарбай статую Леніна на цэнтральнай плошчы горада і падпалілі танк часоў Другой сусветнай вайны (ён стаіць у якасці помніка каля шашы Віцебск–Смаленск). На будынку побач з запэцканым помнікам Ільічу красаваўся надпіс «Ленін — не Хрыстос, а д'ябал», а каля танка быў напісаны заклік наступнага зместу: «Беларусь — у Еўропу, танкі — у Расію. Рубон!» (Рубон — гэта старажытны покліч беларускіх рыцараў). Лёзненскія міліцыянты цяпер актыўна шукаюць «зламыснікаў».

А вось чацвярым студэнтам з Віцебска, якія на мінулым тыдні расклейвалі ў абласным цэнтры ўлёткі Хартыі-97, пашанцавала менш. Ахоўнікі парадку канфіскавалі ў іх 500 улётак і склалі на хлопцаў пратаколы аб парушэнні грамадскага парадку.

**Язэп СІНІЦКІ**

## Прэзідэнт просіць несці валюту ў банкі

**Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт, у якім ад імя дзяржавы даў гарантыю, што калі вы пакладзяце сваю валюту ў банк, з ёю нічога не здарыцца.**

*«Дзяржава гарантуе поўную захаванасць сродкаў і вяртанне іх па першым патрабаванні ўкладчыкаў»*, — гаворыцца ў дэкрэце. Валюту прапануецца несці ў любы з сямі ўпаўнаважаных банкаў, сярод якіх «Беларусбанк», «Белаграпрамбанк», «Белбізнесбанк», «Пріорбанк». Абяцаюць, што працэнты будуць выплачваць рэгулярна ў валюце. Пры адкрыцці рахункаў ужо не будуць патрабаваць дэкларацыю аб паходжанні грошай. Памер укладаў не абмежаваны, аднак, як мяркуе старшыня Нацбанка Пётр Пракаповіч, у асноўным гэта будуць невялікія ўкладанні — ад 500 да 1.500 долараў. Дэкрэтам гарантуецца поўная тайна ўкладаў. Канфіскацыя можа быць праведзеная толькі на падставе рашэння суда.

Пётр Пракаповіч лічыць, што дэкрэт дасць магчымасць прыцягнуць у інвестыцыйны абарот амаль 2 мільярды долараў — менавіта такая сума знаходзіцца цяпер на руках насельніцтва. Але ці панясуць людзі свае долары-марачкі ў банк пад «гарантыю дзяржавы»?

**Мы вырашылі пацікавіцца, што думае на гэты конт былы старшыня Нацбанка Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ.**

«Я не думаю, — сказаў С.Багданкевіч, — што пасля з'яўлення гэтага дэкрэта народ пабяжыць у банкі са сваёй валютаю. Людзі ж ведаюць пра лёгкае стаўленне ўлады да законаў і ўласных абавязкаў і не давяраюць дзяржаве. Ды я б і сам не параіў людзям гэтага рабіць, хіба што звяртацца толькі ў банкі, якія ў сваім статутным фондзе маюць вялікую долю заходняга ці расійскага капіталу. На нашую дзяржаву разлічваць няма сэнсу.

Правядзем такую паралель. Беларускія грамадзяне маюць канстытуцыйнае права на свабоду інфармацыі. Але нейкі чыноўнік дае каманду — не даваць інфармацыі недзяржаўным СМІ. І ніхто не зважае ні на канстытуцыю, ні на законы.

У эканамічнай сферы робіцца тое ж самае. Ёсць закон аб уласнасці, ёсць цэлы шэраг банкаўскіх законаў. Ну і што? Насуперак законам, некаторыя банкі выдавалі працэнты па валютных укладах выключна ў беларускіх рублях па курсу Нацбанка. Іншыя наогул адмаўляліся выдаваць працэнты, пакуль чалавек не пацвердзіць свой уклад дэкларацыяй аб даходах (чаму ж яны не патрабавалі дэкларацыі ў той момант, калі ён гэты ўклад рабіў?).

Цяперашні старшыня Нацбанка Пётр Пракаповіч забараніў беларускім прадпрыемствам прадаваць іхнюю прадукцыю на экспарт за беларускія рублі. Каму ж і навошта ў такім выпадку гэтыя рублі патрэбныя? Любая дзяржава нясе абавязкі па сваіх грошах. А калі яна сама адмаўляецца прымаць уласныя грошы — тут ужо проста няма пра што казаць. Да таго ж ёсць дагавор з краінамі СНД аб разліках у нацыянальных валютах. Калі цяперашні рэжым не выконвае нават міжнародных абавязацельстваў, дык не выпадае чакаць, што ён возьме ў разлік абавязацельствы перад беларускімі грамадзянамі.

Самі па сабе нормы, якія ўтрымліваюцца ў дэкрэце, з'яўляюцца правільным крокам. Больш за тое, толькі ў нашых абсурдных, дзікунскіх умовах тут патрэбны спецыяльны дэкрэт — у цывілізаваных краінах натуральна тое, што ўклады гарантаваныя, выдаюцца па першым патрабаванні і ў той валюце, у якой былі зробленыя. А ў Беларусі... Пакуль у нас не будзе праваравой дзяржавы, прэзідэнта, які сапраўды будзе гарантам Канстытуцыі, незалежных парламента і судовай улады — ніякія «гарантыі» ў любых нарматыўных актах на справе не будуць надзейнымі. Ніхто не перашкодзіць Лукашэнку праз пэўны час пасля гэтага дэкрэта выдаць другі — аб канфіскацыі ўсіх валютных укладаў».

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ, Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

*(А што думае аб «гарантыях дзяржавы» народ на вуліцы — чытайце на стар. 2)*

# Пракуратура рапартуе

**Намеснік генпракурора Беларусі Пётр Іваненка і Міхаіл Снегір правялі «справаздачную» прэс-канферэнцыю па выніках першага квартала.**

Пракуроры заяўляюць, што справы са злачыннасцю ў нас паляпшаюцца.

А калі б не рост падлеткавай злачыннасці ды не павелічэнне колькасці цяжкіх злачынстваў, то агульная карціна была б зусім добрай.

У лукашэнкаўскі парламент накіраваны праект закона аб прафілактыцы злачынстваў і правапарушэнняў. Прапануецца рэанімаваць дружыны, таварыскія суды ды іншыя метады «добрых старых часоў». У пракурораў ёсць спадзяванні, што гэта падзейнічае, у тым ліку на забойцаў.

Пад ціскам журналісцкіх пытанняў давялося прызнаць, што следства па справе забітага некалькі гадоў таму банкіра Лісенчука ўвогуле прыпыненае, а ў справе былога кіраўніка Гродзенскай вобласці Арцыменi, які таксама загінуў ад куль прафесійнага кілера, «зрушэ мала».

Затое з міністрамі, банкірамі, дэпутатамі ды двойчы героямі, якія ўжо сядзяць у ізалятарах, разбіраюцца больш паспяхова. «На працягу месяца справа Старавойтава будзе перададзеная ў суд», — паведаміў намеснік генеральнага пракурора Іваненка. Мяркуючы па катэгарычным тоне, не сумняваецца ён і ў поспеху следства супраць былога міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава. Хутка суд чакае і Тамару Віннікаву. Як сказаў Іваненка, цяпер былая старшыня Нацбанка на лячэнні ў вайсковым шпіталі, а пасля выздараўлення ёй будзе прад'яўленае канчатковае абвінавачванне. Віннікаву паранейшаму падазраюць у злоўжыванні ды раскраданні ў буйных памерах.

Справа дэпутата Андрэя Клімава зусім не палітычная, а «чыста крымінальная», паведаміў журналістам другі ўдзельнік прэс-канферэнцыі Міхаіл Снегір. Аказваецца, сваю кватэру Клімаў адрамантаваў «за сродкі, якія былі пастаўленыя на будаўніцтва дома на вуліцы Лодачнай». Гэта прызнанне стала сапраўднай навіной. Людзі думалі, што Клімаў на сродкі сваёй фірмы будаваў дом, які збіраўся потым прадаць гарадскім уладам, а ў яго, аказваецца, і на рамонт уласнай кватэры грошай не хапала!..

Забойцаў кіраўніка магілёўскіх кантралёраў Яўгена Мікалуцкага пакуль не знайшлі, але «пасунуліся ў адпрацоўцы версіяў». Цяпер следчыя збіраюцца з рэйдам у суседнюю Расію. З'явіліся звесткі, што туды цягнуцца ніткі змовы супраць забітага прэзідэнцкага сябра.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

**P.S.** Прашу прабачэння, калі памыліўся з аўтарствам той ці іншай цытаты. Карэспандэнта НАВІНАЎ на прэс-канферэнцыю не пусцілі, назваўшы нашае выданне «неаб'ектыўным». На мерапрыемстве прысутнічаў толькі мой дыктафон. А ён па голасе прамоўцаў не распазнае.

# Грошы на кватэру – без дэкларацыі

***А чыноўнікі і міліцыянты павінны прызнацца***

З 22 красавіка ўступіў у сілу дэкрэт прэзідэнта Беларусі «Аб дэклараванні даходаў і маёмасці».

Грамадзяне абавязаны прадстаўляць дэкларацыі аб даходах і маёмасці па запатрабаванні органаў Камітэта дзяржаўнага кантролю, дзяржаўных падатковых органаў, органаў унутраных справаў, Камітэта дзяржаўнай бяспекі і пракуратуры. За непрадстаўленне такой дэкларацыі, указанне ў ёй няпоўных або недакладных звестак у першы раз накладаецца штраф у памеры ад 5 да 50 мінімальных заробатных плат. Калі такія ж дзеянні ўчыненыя неаднаразова, то «маёмасць фізічных асобаў, што падлягае дэклараванню, можа быць сканфіскавана па рашэнні суда як неабгрунтавана набытая». Фізічныя асобы пры ажыццяўленні маёмаснай здзелкі на суму, якая перавышае 500 мінімальных заробатных плат, абавязаны прадстаўляць дэкларацыю аб крыніцах грашовых сродкаў у падатковы орган.

У дакуменце спецыяльна агаворана, што дэкларацыя ***«не прадстаўляецца пры ажыццяўленні маёмасных здзелак, звязаных з будаўніцтвам, рэканструкцыяй або набыццём жылых памяшканняў для асабістага карыстання, а таксама пры ажыццяўленні банкамі аперацыяў па грашовых укладах фізічных асобаў».***

Службовыя дзяржаўнага апарату, службовыя асобы дзяржаўных прадпрыемстваў, установаў і арганізацыяў, ваеннаслужачыя, супрацоўнікі органаў унутраных справаў абавязаны прадстаўляць дэкларацыі аб даходах і маёмасці пры прызначэнні іх на пасаду.

У адпаведнасці з прэзідэнцкім дэкрэтам, абавязковаму дэклараванню падлягаюць даходы ў грашовай і натуральнай форме, атрыманыя грамадзянамі на працягу каляндарнага года на тэрыторыі Беларусі і за яе межамі; жылыя дамы з надворнымі пабудовамі, гаражы, іншыя пабудовы і аб'екты незавершанага будаўніцтва, кватэры, іх часткі; транспартныя сродкі (акрамя мапедаў, веласіпедаў, гужавога транспарту); творы мастацтва, каштоўныя металы і камяні, вырабы з іх, калі кошт прадмета перавышае 200 мінімальных зарплат; будаўнічыя матэрыялы, за выключэннем прызначаных для будаўніцтва і рэканструкцыі жылых памяшканняў для асабістага карыстання, а таксама іншая маёмасць, кошт якой перавышае 500 мінімальных заробтных плат. Ацэнка маёмасці, якая падлягае дэклараванню, робіцца ў цэнах на момант прадстаўлення дэкларацыі.

*БелаПАН*

# Чарнобыльскія пенсіі

**Ахвяры чарнобыльскай катастрофы праз 12 гадоў сталі ахвярамі эканамічнага крызісу. У абодвух выпадках вінаватыя не людзі, а тыя, хто сядзіць у высокіх кабінетах.**

Днямі мы звярнуліся ў міністэрства сацыяльнай абароны, каб высвеліць сітуацыю вакол пенсій і сацыяльных дапамог чарнобыльцам. Чыноўнікі ведамства, якім кіруе міністр Вольга Даргель, наадрэз адмовіліся падзяліцца інфармацыяй. Відаць, у міністэрстве нешта цямняць. Выявіліся надта дзіўныя рэчы. Памер пенсіяў інвалідам-чарнобыльцам вагаецца ад 832 тысячаў да 47 мільёнаў рублёў.

На «круглым стале» па чарнобыльскіх праблемах прадстаўнік міністэрства па надзвычайных сітуацыях Уладзімір Кудзін заявіў, што ўзровень сацыяльнай абароны «чарнобыльцаў» у Беларусі ніжэйшы, чым на Украіне і ў Расіі. Па яго словах, сацыяльная пенсія расійскіх «ліквідатараў» вышэйшая, чым нават у амерыканскіх ветэранаў в'етнамскай вайны. Акрамя сацыяльнай, расіяне атрымліваюць яшчэ і пенсію па ўзросце, чаго няма ў нашай краіне.

Сярэдняя пенсія пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы ў Беларусі складае 4,5 мільёна рублёў. Але гэтая лічба не адлюстроўвае рэальнага становішча. З 50 тысячаў «льготнікаў» толькі 10 працэнтаў атрымоўваюць больш-менш прыстойныя грошы. Людзі, пацярпелыя ад катастрофы, пастаянна маюць патрэбу ў леках, багатым на вітаміны харчаванні і абавязкова ў аздараўленчым адпачынку. Улічваючы сённяшнія кошты, даводзіцца эканоміць на здароўі.

Дзецям-інвалідам Чарнобыля да 16 гадоў закон нагогул не дае ніякіх гарантыяў: яны атрымоўваюць звычайную сацыяльную пенсію, якую можна назваць жабрацкай — усяго 800 тысячаў рублёў.

Толькі адзінкі сярод ліквідатараў-інвалідаў атрымліваюць у нас пенсіі па 30—40 мільёнаў рублёў. Праўда, павышаныя пенсіі часам выплачваюць не тым ліквідатарам, якія пацярпелі больш за астатніх. Гэтыя пенсіі налічваюцца, зыходзячы з атрыманай у час ліквідацыі зарплаты. Калі чалавек быў заняты на «чарнобыльскіх» работах адзін-два дні (выступіў з дакладам), яму вызначаецца ўмоўны заробак, з якога налічваецца пенсія. Тым жа ліквідатарам, якія знаходзіліся ў чарнобыльскай зоне працяглы час, пенсіі прызначаюцца не з умоўнага, а з канкрэтнага заробку. У выніку памеры пенсіяў аказваюцца значна меншымі.

Мы не заклікаем зрэзаць пенсіі ў адных і перадаць іншым. Тым людзям, якія сапраўды сур'ёзна пацярпелі ад Чарнобыля, неабходна значна павысіць сацыяльныя выплаты. Чыноўнікі самі прызнаюцца, што «чарнобыльцы мруць, як мухі», таму адкладваць ужо няма куды.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Публіка не спяшаецца

**Карэспандэнты НАВІНАЎ выйшлі ў дзень публікацыі дэкрэта Лукашэнкі «Аб гарантыях захаванасці сродкаў фізічных асоб...» на праспект Ф.Скарыны ў Мінску і пацікавіліся ў сталічных жыхароў, што яны думаюць аб гэтым прэзідэнцкім наватвядзенні.**

**Саша**, 28 гадоў, працуе на БТ:

— Я не ведаю такіх людзей, якія б сёння не пабаяліся ўкласці валюту ў беларускія банкі. Я не стаў бы. У нашай дзяржаве ніхто нічога гарантаваць на гэты момант не можа. Калі б я меў валюту, я б яе лепш перавёў у любы прыбалтыйскі банк. І ведаў бы, што яна там надзейна захоўваецца.

**Людміла**, 51 год, кажа, што валюты ў яе няма, але «калі прэзідэнт гарантуе, то, відаць, можна палажыць грошы ў банк. Любую суму».

**Віктар**, 25 гадоў, рабочы:

— А, ведаю: «Я гарантую сваім іменем»... Нешта такое я чуў. Я б ні за што не змяшчаў грошы ў беларускі банк пад гарантыю прэзідэнта. Бо ён цяпер гарантуе, а потым спытае: «А дзе тваё дэкларацыі, а дзе ты ўзяў гэтыя грошы?». Ён спакойна можа ўвесці такое наступным дэкрэтам.

25-гадовая **Віка**, медык па адукацыі, лічыць, што варта «вытрымаць паўзу. Калі гэта спрацуе ў будучыні і апраўдае сябе — тады можна і рызыкнуць. Можа, гады праз два».

**Мікалай Фёдаравіч**, 61 год, працуе ў Дзяржбуднаглядзе:

— Я веру прэзідэнту. І раз ёсць яго гарантыя — прэзідэнт для гэтага і выбраны, — я паклаў бы грошы ў банк. Калі б яны былі.

**Юрый**, 20-гадовы студэнт, упэўнены, што дэкрэт гэты — падман: «Спачатку хочуць, каб людзі ўсе грошы прынеслі. Відаць, пад кантроль усё гэта ўзяць збіраюцца, а потым — адымуць. Цяпер прэзідэнт адзін дэкрэт выдаў, а заўтра — другі. Не давяраю».

**Уладзімір**, 45 гадоў, інжынер на трактарным заводзе:

— Я б не нёс грошы ў беларускі банк. Прэзідэнт ужо шмат чаго абяцаў і абяцае, а атрымліваецца ўсё наадварот. Калі ёсць грошы ў сям'і — лепш за ўсё захоўваць іх дома. Альбо недзе за мяжой, хоць у Расіі.

35-гадовы рабочы «Атланта» **Сяргей** праводзіць аналогіі: «Нядаўна дэкрэтам прыбралі выхадныя ў велікодны панядзелак — маўляў, замнога святаў. Заўтра скажуць, што замнога грошай, — і папалавіняць рахунак у банку».

**Тацццяна**, 37 гадоў, працуе ў музычнай школе:

— Пад гарантыю прэзідэнта я без сумневу занясу грошы ў банк. Маю невялічкую суму, — менш, чым 500 доляраў, але хай працэнты растуць.

**Оля**, 20 гадоў, хатняя гаспадыня:

— Ведаеце, я свае грошы ў банк не панясу ніколі. І прэзідэнт ні пры чым. Аніякі, нават самы высокі працэнт не прымусіць мяне давяраць сваю валюту дзяржаве.

70-гадовы пенсіянер **Эдуард Ягень** будзе і надалей трымаць свае грошы дома: «Я ўжо стары чалавек, мне цяжка ісці ў банк і выстойваць у чарзе, каб адкрыць рахунак ці зняць з яго грошы. У нас, пенсіянераў, запросы невялікія, за прыбыткам не гонімся. Дый доляраў у мяне не так і шмат. Які сэнс несці іх у банк».

**Святлана Брэгер**, 28 гадоў, прадае кветкі ў пераходзе:

— Я ўжо чула аб гэтым дэкрэце Лукашэнкі і хутчэй за ўсё свае долары аднясу ў Беларусбанк. Баюся трымаць вялікую суму дома: маю кватэру ўжо адзін раз абрабавалі.

А 24-гадовы агент па пракаце аўтамабіляў **Аляксей Сікорскі** ўжо мае прыкры досвед укладання валюты ў беларускія банкі і больш туды грошы ніколі не панясе. Ён паклаў даволі буйную суму ў банк, які неўзабаве разваліўся, і долары яму ніхто не вярнуў. Цяпер Аляксей упэўнены, што звычайныя злачынцы не ідуць ні ў якае параўнанне з такім буйным экспрапрыятарам, якім з'яўляецца дзяржава.

— У мяне няма абсалютна ніякай упэўненасці, што ў адзін цудоўны дзень гэтыя сродкі чарговым прэзідэнцкім указам не будуць пераведзеныя ў беларускія рублі ці пойдуць на нейкія іншыя мэты дзяржавы, якая будуе рынкавы сацыялізм. Але фінансаваць гэтыя сумніўныя праекты са сваёй кішэні я не збіраюся, — паведаміла 35-гадовая выкладчыца Універсітэта культуры **Святлана**.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ, Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Ціцянкоў забірае бальніцу чарнобыльцаў

**Напярэдадні гадавіны чарнобыльскай катастрофы беларускія ўлады зрабілі сюрпрыз хворым і ліквідатарам.**

Рэспубліканскі дыспансер радыяцыйнай медыцыны, які 10 гадоў размяшчаўся ў цэнтры сталіцы на вул.Чырвонаармейскай, павінен пераехаць у іншае месца. У рэдакцыю трапіла копія пратакола нарады, якая адбылася ў аўторак у намесніка прэм'ера Уладзіміра Замяталіна. Прынятае рашэнне перавесці дыспансер радыяцыйнай медыцыны ў будынак водагразелячэбніцы, што на вуліцы Макаёнка. Даручана падрыхтаваць праект пастановы Савета міністраў аб перадачы будынка Рэспубліканскага дыспансера на баланс ведамства Івана Ціцянкова. Па нашых звестках, там размесціцца служба Галоўнага ўпраўлення лячэбна-прафілактычных установаў, якое па традыцыі звычайна называюць лечкамісіяй.

Мы вырашылі пацікавіцца, што думае аб гэтым галоўны ўрач Рэспубліканскага дыспансера Валерый Ржэуцкі, аднак ён адмовіўся каментаваць дзеянні ўладаў, зазначыўшы толькі, што калектыву хацелася б працаваць на прывычным месцы. Жаданне медыкаў цалкам зразумелае: у старым будынку знаходзіцца ўнікальнае абсталяванне, якое набывалася спецыяльна пад гэтыя памяшканні. Пацерпяць жа ад усіх гэтых пераездаў у першую чаргу хворыя чарнобыльцы.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Карта Беларусі пусцее

**Колькасць вёсак у нашай краіне скарацілася за апошнія 20 гадоў амаль на паўтары тысячы.**

Як паведаміў у інтэрв'ю БелаПАН загадчык сектара Беларускага навукова-даследчага інстытута эканомікі і інфармацыі аграпрамысловага комплексу Міхаіл Антоненка, з карты знікла 1.450 вёсак, і гэта пераважна дробныя населеныя пункты з колькасцю жыхароў да 100 чалавек. Прычым такіх становіцца ўсё больш: сярэдняя колькасць насельніцтва ў вёсках, дзе няма ніякіх вытворчых аб'ектаў, скарацілася ўтрая. Яшчэ крыху трымаюцца вёскі, у якіх ёсць малочнатаварныя фермы і калгасныя палявыя брыгады.

На думку М.Антоненкі, развіццё фермерскіх гаспадарак не можа адыграць вызначальную ролю ў былой калгасна-саўгаснай краіне. Ён лічыць, што рост прадукцыйнасці працы ў акцыянаваных калгасах і саўгасах прывядзе да памяншэння колькасці насельніцтва, занятага ў сельскай гаспадарцы, і далейшага скарачэння колькасці сялян. Насельніцтва ў вёсках усё больш будзе пераходзіць са сферы сельскагаспадарчай вытворчасці ў сферу паслуг, прагназуе М.Антоненка.

Аднак у такі сцэнарый слаба верыцца. Каму будуць патрэбныя тыя паслугі, калі ў вёсках не будзе маладых, здаровых, заможных людзей?

**Магдалена НЕПАКАЙ**

# Усё на экспарт, усё ў Расію

**Вываз беларускіх тавараў у Расію, перш за ўсё харчовых, пастаянна расце. Адначасова скарачаецца імпарт. Беларусам застаюцца пустыя прылаўкі.**

Паліцы беларускіх крамаў з кожным днём бяднеюць. Зноў знік з продажу цукар, перыядычна знікае сыр, значна скараціўся асартымент мясных і каўбасных вырабаў. Прычым дэфіцытам сталі не толькі танныя каўбасы, але і дарагая прадукцыя беларускіх заводаў.

Усё менш у продажы імпартных тавараў. Так, па словах прадстаўніка адной з фірмаў-імпарцёраў тытуню, запасы скарачаюцца, і на складах цыгарэтаў засталося няшмат. Чым будуць гандляваць праз пару тыдняў — невядома.

На мясакамбінаты перасталі здаваць мяса. Як любяць казаць чыноўнікі, дзейнічае «традыцыйны сезонны фактар». На пачатку вясны скаціны сапраўды рэжуць менш, але гэта не самая важная рэч. Спецыялісты гандлёвых фірмаў галоўнай прычынай дэфіцыту называюць абвальны вываз харчоў у Расію.

Няма нічога дзіўнага — такі бізнес вельмі выгадны. Напрыклад, кілаграм курынага мяса ў Расіі каштуе прыкладна 16,5 расійскіх рублёў, цукру — 4,4 рубля. Калі ж пералічыць па рынкавым курсе беларускія кошты, то атрымаем каля 8 расійскіх рублёў за кілаграм курыцы і 2,3 рубля за кіло цукру. У выніку, нават з улікам транспартных і іншых выдаткаў, атрымліваецца вялізны прыбытак — амаль пад 100%. Тое ж і з коштамі многіх іншых тавараў.

Рэзкая разбежка беларускіх і расійскіх цэнаў з'явілася з прычыны вельмі хуткага падзення курсу беларускага рубля. Пры гэтым падняць цэны забаранілі, і ў выніку прадпрыемствам стала зусім нявыгадна прадаваць прадукцыю за беларускія рублі, а экспарт, наадварот, стаў вельмі прыбытковым. Калі ж улічыць, напрыклад, забарону на экспарт мяса, некаторыя прадпрыемствы вымушаныя ісці нават на канфлікт з законам, каб пазбегнуць банкруцтва. Іншыя паступаюць хітрэй. Каб абысці забароны, яны крыху змяняюць рэцэптуру і прадаюць тую ж каўбасу як новы тавар і па новых коштах.

Праблемы ёсць не толькі з харчаваннем. Напрыклад, добрая беларуская мэбля фактычна знікла з крамаў. Прычына тая ж — больш за 80% яе прадаецца ў Расію. Набыць мэблю нават непасрэдна на фабрыцы за рублі стала вельмі цяжка: прадпрыемствам такія аперацыі не прыносяць прыбытку.

Прадстаўнікі гандлёвых фірмаў і арганізацыяў, з якімі размаўляў карэспандэнт НАВІНАЎ, кажуць, што прадказаць развіццё падзеяў цяжка, аднак росту цэнаў не пазбегнуць. І пакуль яго яшчэ ўдавалася крыху стрымаць за кошт продажу запасаў тавараў па старых цэнах. Але запасы скончыліся.

**Алесь САДОЎСКІ**



*Колькасць прыватных «чаўнакоў», якія вывозяць дробныя партыі прадуктаў, міліцыя не бярэцца ацаніць нават прыблізна.*

Лічбы і памеры таго, што вывозіцца зараз у Расію, уражваюць!

У Мсціслаўскім раёне Магілёўскай вобласці за два дні міліцыя затрымала 7 малакавозаў з 22 тонамі малака, якое везлі ў Расію. Агульны кошт затрыманага малака — каля 100 мільёнаў рублёў. Яго прымусова скіравалі на мясцовы масласырзавод. Там жа была затрыманая машына з 20 тонамі ялавічыны коштам у 1 мільярд 200 мільёнаў рублёў.

Буйную партыю курыных яек — 270 тысячаў! — вылавіла міліцыя побач з вёскай Княжыцы Шклоўскага раёна. Агульны кошт грузу амаль 14.000 долараў.

Памеры вывазу сталі такія, што ў саміх мытнікаў сілаў ужо не хапае. Ім у дапамогу накіроўваюцца міліцэйскія нарады і супрацоўнікі падатковых інспекцыяў. Толькі Крычаўскі мытны пост, па словах яго кіраўніка Станіслава Дзямідовіча, затрымлівае цяпер па 7-8 аўтацыстэрнаў з малаком і па некалькі машын з мясам штодня. Сыравіну і гатовую прадукцыю вязуць практычна з усіх абласцей краіны.

**Іван ЗАСАДА**

# Кожны чацвёрты жыхар беларускай сталіцы – парушальнік

**Да такой высновы прыйшла мінская гарадская міліцыя, падлічыўшы колькасць адміністратыўных парушэнняў за першыя месяцы гэтага года.**

Па словах начальніка гарадскога ўпраўлення ўнутраных справаў генерала Барыса Тарлецкага, са студзеня па сакавік у Мінску было ўчынена каля 400 тысячаў правапарушэнняў. Калі гэтая тэндэнцыя захаваецца на працягу ўсяго года, дык парушальнікамі можна будзе назваць усіх жыхароў Мінска: ад немаўлятаў да старых.

Хто ж яны — мінскія парушальнікі? Перш за ўсё — гэта кіроўцы і пешаходы. Больш за палову ўсіх правапарушэнняў учыняюць менавіта яны. Дарэчы, па міліцэйскіх дадзеных, у 75% выпадкаў, калі машына наязджае на пешахода, вінаваты пешаход.

Болей за 37 тысячаў чалавек былі аштрафаваныя за тое, што спажывалі сваю «чарку са скваркай» на вуліцы або проста бадзяліся па горадзе п'яныя. Такім чынам, сваё права на чарку гарэлкі пасля цяжкай працоўнай вахты дзейнічае ў межах уласнае кватэры.

Асобны клас парушальнікаў — гэта ўладальнікі сабакаў. Дарэмна яны спадзяюцца адкупіцца ад гарадскіх уладаў падаткам на ўтрыманне чатырохлапага сябра — 75-250 тысячаў штомесяц. Цяпер усе сабачыя гаспадары — патэнцыйныя правапарушальнікі. Калі падчас прагулкі са зверам нехта з іх не возьме шуфлік і торбачку або адважыцца выгуляць сабаку па-за спецыяльнай пляцоўкай — някай адразу рыхтуе кашалёк. Сёлета пакараныя ўжо болей за 1.600 такіх «злачынцаў».

Самыя карысныя для беларускай дзяржавы парушальнікі — гэтак званыя «валютчыкі». Нездарма менавіта ім прысвяціў летась свой самы першы дэкрэт Аляксандр Лукашэнка. Нагадаем, што дэкрэт, у прыватнасці, прадугледжвае канфіскацыю ўсёй валюты, што мелі пры сабе ўдзельнікі незаконных валютных аперацыяў. Сёлета мінская міліцыя, затрымаўшы болей за 900 «валютчыкаў», выцягнула з іхняй кішэні і аддала дзяржаве 18 тысячаў долараў, 6.500 нямецкіх марак, больш за паўтара мільярда беларускіх рублёў. Пры гэтым вядома, што часцей за ўсё ў рукі міліцыянтаў трапляюць не акулы крымінальнага бізнесу, а небаракі, якія захацелі набыць 20-30 долараў — на большае зарплаты не хапае.

Безумоўна, парушаюць грамадскі парадак і дэманстранты. За гэтыя парушэнні іх затрымліваюць і штрафуюць. І, як не без гонару ў інтанацыях паведаміў генерал Тарлецкі, кожны раз ён асабіста намагаецца зрабіць так, каб невінаватыя людзі не пацярпелі, а затрыманыя потым не скардзіліся на міліцыю. Верым, што намагаецца, але практычна пасля кожнага мітынгу ці пікета атрымліваем інфармацыю пра жорсткія збіцці людзей пры затрыманні. Генерал раіць у такіх выпадках звяртацца ў пракуратуру, а лепей за ўсё — «проста не прымаць удзел у несанкцыянаваных мерапрыемствах».

Так што калі вы не хочаце трапіць у статыстыку адміністратыўных правапарушэнняў, дык не сядайце за руль, не пераходзьце вуліцу, не хадзіце ў госці, не заводзьце сабаку, вядзіце сямейны бюджэт толькі ў беларускіх рублях і пільна сачыце, каб раптам не апынуцца сярод удзельнікаў нейкага несанкцыянаванага шэсця. Тады ў вас з'явіцца шанцы стаць законапаслухмяным грамадзянінам.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

ВЕРСІІ

# Беларуская зброя супраць талібаў

На Беларусь нечакана зваліўся пасланец адной з самых небяспечных цэнтральнаазіяцкіх краінаў. Некаторыя дасведчаныя людзі кажуць, што візіт у Мінск міністра абароны Таджыкістана Шэралі Хайрулоева на гэтым тыдні пацвердзіў ранейшую інфармацыю аб планах узмацнення беларускай зброяй афганцаў, якія супрацьстаяць талібам.

У адной звязцы Таджыкістан і Беларусь фігуруюць упершыню за апошнія хіба што сем гадоў. Ва ўсякім разе пакуль апошнія тры гады ў гэтай самай паўднёвай з былых савецкіх рэспублік ішла грамадзянская вайна, Беларусь ніяк не праяўляла на Памірах сваіх інтарэсаў. І вось раптам — міністр абароны. Два дні сустрэч — і гатовыя пагадненні аб вайсковым і вайскова-тэхнічным супрацоўніцтве. Інфармацыю аб тым, што таджыкі будуць закупляць у нас зброю, афіцыйныя крыніцы пакуль не пацвярджаюць, аднак і не абвяргаюць. Дый чаго абвяргаць: нашая зброя ўжо прапісалася ў Малдове, зведалі яе ў Перу, Венгрыі, дарожка пракладзеная ў Кітай, некаторыя іншыя азіяцкія краіны. Мелі б толькі таджыкі жаданне ды грошы, каб расплаціцца.

Аднак «вайсковае супрацоўніцтва» з Таджыкістанам — не такая простая рэч. Па-першае, гэта краіна, дзе толькі-толькі прыціхла грамадзянская вайна. Дамовы паміж урадам, які абапіраецца на паўночных раўнінных таджыкаў, і апазіцыяй, што мае падтрымку ў горных паўднёвых раёнах, вельмі няўстойлівыя. Раз-пораз узнікаюць сутычкі, і пастаўкі зброі ў Таджыкістан могуць быць успрынятыя міжнароднай супольнасцю як падкідванне новых дроваў у полымя вайны. З адпаведнымі для нас наступствамі.

Ёсць і яшчэ адзін момант. Дзе гарантыя, што зброя, якую купіць Таджыкістан, не апынецца ў суседнім Афганістане, дзе вайна ідзе ўжо амаль дваццаць гадоў? Летась, пасля захопу Кабула, наступ талібаў на поўнач захлынуўся. Цяпер яны перагрупоўваюцца, збіраюць сілы. У той жа час тыя, хто супрацьстаяў талібам, ніяк не створаць моцную кааліцыю. Лідэр афганскіх таджыкаў Ахмад Шах Масуд падазрае ў здрадзе лідэра мясцовых узбекаў генерала Дустума, а абодва яны не прызнаюць верхавенства прэзідэнта Рабані, з якім канкураравалі яшчэ ў часы маджахедства.

Наступу талібаў баяцца не толькі Ахмад Шах Масуд і Рабані. Безумоўна, яго баяцца і ў Таджыкістане. Але больш за ўсіх, проста панічна, баіцца наступу талібаў Масква. Пасля Афганістана хваля сапраўднага, жорсткага, бязлітаснага ісламскага фундаменталізму можа захлынуць усю Сярэднюю Азію, а далей... Нагадаем, што ў Расіі мусульманскія народы — не толькі татары, башкіры ды мардва.

Улічваючы гэтую пагрозу, Масква будзе дапамагаць нават чорту, калі той возьмецца засланіць расійскія межы ад талібаў. Найбольш верагодна, што на ролю чорта прэтэндуе Ахмад Шах Масуд. Пра тое, што «пандшэрскі тыгр» «думае пра Беларусь», упершыню паведаміў беларускай аўдыторыі наш «афганец» Мікалай Чаргінец на прэс-канферэнцыі з прычыны дзевятых угодкаў выводу савецкіх войскаў з Афганістана. Чаргінец пацвердзіў звесткі, згодна з якімі Ахмад Шах Масуд збіраецца навесці кантакты з беларускімі афіцыйнымі асобамі, каб набыць у Беларусі для свайго войска «партыю зброі». Крыніцы гэтай інфармацыі названыя не былі, і ўвогуле яна выглядала даволі рамантычна і хутка забылася. Канечне, баявы генерал, сенатар — асоба дасведчаная, але ж ён адначасова і пісьменнік, фантазёр.

Прайшло тры месяцы. За гэты час у Таджыкістане завяршыліся перамовы паміж «поўначчу» і «поўднем». Паўднёвая апазіцыя, якой грашыма і зброяй дапамагаў Ахмад Шах Масуд, дамаглася прызнання і нават атрымала некалькі партфеляў у таджыкскім урадзе. У Мінску сам-насам перамаўляюцца таджыкскі генерал з беларускім, а тым часам ідзе аб'яднанне ўрадавага таджыкскага войска з апазіцыйнымі фарміраваннямі. Па сутнасці, ствараецца новая армія, раздаюцца званні, дзеляцца сферы ўплыву. Якраз час размічыцца: войска Рахмонава павінна расійцам, якія дапамагалі яму зброяй і запасамі са сваіх складоў; войска апазіцыі вінаватае Ахмаду Шаху Масуду. Застаецца толькі знайсці такую крыніцу папаўнення таджыкскіх арсеналаў, якая потым не спытаецца: «А куды вы падзелі нашыя патроны?»

Канечне, гэта толькі версія, але, пагадзіцеся, дастаткова лагічная. Лепшага партнёра для таджыкаў, чым Беларусь, Масква не знойдзе. Краіна без абавязкаў перад міжнароднай супольнасцю. Пры гэтым краіна без грошай, але з вялікімі запасамі зброі.

Чым толькі будзе разлічвацца бедны зруйнаваны Таджыкістан за актывізацыю «ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва» з Беларуссю? Незалежныя эксперты называюць некалькі магчымых шляхоў разліку. Адзін з іх — расійскія энергановсьбіты, калі Расія пагодзіцца ўзяць даўгі Таджыкістана на сябе. Нарэшце, можа пайсці і самы хадавы таджыкскі тавар — наркотыкі.

Дарэчы, хутка Таджыкістан павінен далучыцца да адзінай мытнай прасторы паміж Беларуссю, Расіяй, Казахстанам і Кіргізіяй. Таму наступ сюды і далей на Захад таджыкскіх (а фактычна афганскіх) наркотыкаў стане значна лягчэйшым. Але гэта, вядома ж, таксама толькі версія.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

*Сацыялагічнае апытанне*

# Уласныя інтарэсы будуць бараніць са зброяй у руках

**Віцебскія сацыёлагі трэці год запар праводзяць апытанні старшакласнікаў, навучэнцаў ПТВ, тэхнікумаў і студэнтаў ВНУ на прадмет іх ідэалаў і сацыяльнай арыентацыі. Сёлетняй вясной па квотнай рэпрэзэнтатыўнай выбарцы было апытана 920 маладых людзей.**

Зразумела, што вынікі апытання нельга лічыць паказальнымі для ўсёй беларускай моладзі. І ўсё ж...

Традыцыйна каштоўнасцю беларусаў было прадаўжэнне роду. Магчыма таму вялікая частка апытанай моладзі (30%) сэнс жыцця бачыць у тым, каб гадаваць дзяцей і доўжыць свой род. Другая значная група лічыць, што чалавек жыве для ўласнага задавальнення. Даволі значна (22%) прадстаўлены, так бы мовіць, кавалі ўласнага шчасця, якія лічаць, што чалавек жыве для самарэалізацыі найлепшых сваіх здольнасцяў. Цікава, што цяперашняя моладзь малапатрыятычная: толькі 2% апытаных бачаць сэнс жыцця ў служэнні радзіме.

Што да рэлігіі, то ўсяго 2% апытаных лічаць сябе атэістамі, але ў Бога вераць толькі адзін з трох апытаных. Астатнія — вагаюцца паміж верай і бязвер'ем або не маюць ніякага рэлігійнага пачуцця, ці з'яўляюцца натуральнымі язычнікамі, бо вераць у розную нечысць. Тым не менш, моладзь дастаткова талерантна ставіцца да дысідэнтаў. Прынамсі, яна б не падтрымала заклік Патрыярха ці іншых царкоўных іерархаў не глядзець які-небудзь кінафільм ці не чытаць «шкодную» кнігу. Але разам з тым каля паловы рэспандэнтаў гатовыя прыслухацца да палітычных рэкамендацыяў царквы пры выбарах таго ці іншага кандыдата.




Аб выразным інтарэсе да палітыкі заявіў кожны пяты апытаны. Астатнія ставяцца да яе абыякава, з недаверам ці нават з агідай. Значная частка моладзі не мае на гэты конт уласнага пункту гледжання. Ёсць падставы думаць, што такая пазіцыя вызначаецца сучаснай палітычнай сітуацыяй, калі ўлады ва ўсю гуляюць у інтэграцыйныя гульні без усялякага бачнага руху ў той ці іншы бок. Прынамсі, толькі палова пяты моладзі чалавек лічыць Беларусь суверэннай дзяржавай, а больш паловы — не.

Адносіны да такой небяспечнай з'явы, як палітычны тэрарызм, таксама даюць падставы для заклапочанасці: больш за 20% апытаных лічаць яго магчымым пры пэўных абставінах. Такія адносіны да тэрарызму, магчыма, вызначаныя тым, што супраць значнай часткі моладзі перыядычна ўжываецца насілле, а ў сем'ях навучэнцаў ПТВ фізічная кара (рэгулярна ці час ад часу тут б'юць 3/4 дзяцей) — з'ява амаль штодзённая. Не дзіва, што пасля такой «загартоўкі» большая палова апытаных у выпадку нападу аддае перавагу актыўнаму супраціву, чвэрць лічыць за лепшае «зрабіць ногі» і толькі 17% гатовыя звярнуцца за дапамогай у адпаведныя органы.



Карацей кажучы, у маладзёжных разборках пануе хуткі самасуд — на ўдар адказваюць ударам ці стараюцца біць першым. Цікава, што на пытанне: ці даводзілася вам удзельнічаць у незаконных дзеяннях? — сцвярджальна адказаў амаль кожны трэці рэспандэнт, а сярод студэнтаў ВНУ «нязлоўленых злачынцаў» — каля 40%. Значная частка моладзі (18%) лічыць дапушчальным удзел у злачынстве. З улікам гэтых абставінаў няма нічога дзіўнага, што большасць маладых асоб хацела б мець уласную зброю. Навошта зброя? Амаль кожны чацвёрты апытаны заявіў, што ў выпадку, калі будуць парушаны яго інтарэсы, ён гатовы бараніцца менавіта са зброяй у руках.

**Яўген ВЕЖНАВЕЦ,**
**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

# Прэзідэнт замітусіўся

**Юрый ХАДЫКА**

У мінулую пятніцу з патаемных нетраў прэзідэнцкай адміністрацыі ў незалежную прэсу прасачылася надзвычай цікавая інфармацыя. У ёй сцвярджалася, быццам адміністрацыя прэзідэнта распачала перамовы з прадстаўнікамі БСДП з мэтаю прарыву міжнароднай ізаляцыі і нават прапанавала сацыял-дэмакратам у якасці «перніка» аж сем міністэрскіх пасадаў. Інфармацыя, на жаль, ананімная, і кіраўніцтва БСДП вусна абвергла яе. Але ці праўда гэта, ці проста няўклюдная спроба раскалоць і пасварыць апазіцыю — пакуль сказаць цяжка. Неабходна дачакацца афіцыйнай заявы БСДП.

Але самы час паразважаць пра тое, што ўсё гэта азначае. Чаму следам за інфармацыяй аб падрыхтоўцы выбараў у нацыянальны сход, якую агучыў Г.Карпенка па прэс-канферэнцыі 7 красавіка і якую хутка абверг сам А.Лукашэнка, паступае новая — пра тое ж самае і нават большае. Ці не азначае гэта, што мяккае крэсла, якое так падабаецца прэзідэнту, стала муляць і што нас чакаюць у хуткім часе значныя перамены?



Многае гаворыць пра тое, што гэта так. Таму і паўстае сакраментальнае пытанне: куды пойдзе Беларусь, апынуўшыся на чарговым раздарожжы? Ці хопіць палітычна актыўнай часткі нашага грамадства сілы і розуму, каб пазбегнуць спакус, хітрых пастак і нарэшце атрымаць перамогу?

Цэнтральным тут, відавочна, з'яўляецца пытанне аб выбарах (як прэзідэнцкіх, так і Вярхоўнага Савета) і ўмовах іх правядзення. Прэзідэнцкія выбары ў адпаведнасці з Канстытуцыяй-94 павінны адбыцца летам 1999 г. Парламенцкія — восенню 2000 г. На правядзенні свабодных дэмакратычных выбараў настойвае Еўропа. Старшыня АБСЕ Браніслаў Герэмэк на адкрыцці офіса Кансультацыйна-назіральнай групы ў Мінску прама заявіў, што пасля лета 1999 г. рэжым Лукашэнкі Еўропа будзе лічыць незаконным.

Тым часам Аляксандр Лукашэнка нядаўна зноў сказаў, што ніякіх выбараў прэзідэнта ў 1999 г. не будзе, што ён будзе выконваць «волю народа». Аднак, гэта няпраўда. Шмат што сведчыць пра тое, што Лукашэнку прыйдзецца саступіць ціску Еўропы, да якога далучылася цяпер і Расія. Тым болей, што ніякай «волі народа» не было. Бо рэферэндум па канстытуцыйным пытанні насіў толькі дарадчы характар. Абавязковасць надаў яму сваім дэкрэтам сам Лукашэнка.

Аднак самым пераканаўчым чыннікам, які прымусіць рэжым адступіць, з'яўляецца эканоміка. Яе цяперашні гаротны стан — гэта вынік няправільнай унутранай і знешняй палітыкі Беларусі.

Канцэнтрацыя ўсіх галінаў улады ў адных руках і грубае парушэнне законаў, рэпрэсіі супраць апазіцыі прымусілі дэмакратычныя краіны Еўропы і ЗША адмовіцца ад фінансавай дапамогі рэжыму А.Лукашэнкі. Вельмі хутка дэфіцыт у гандлі з Захадам з'еў валютныя рэсурсы Нацбанка. Папоўніць іх няма чым. Ні Расія, ні, тым болей, Сірыя ці Ірак не дапамогуць. Гандаль з Расіяй ажыццяўляецца пераважна па бартары. Такім чынам, аднабаковая арыентацыя эканамічных сувязяў на Усход (чаго з такім імпэтам дамагаўся прэзідэнт) і палітыка перагрэву эканомікі шляхам друкавання пустых грошай прывялі рэжым Лукашэнкі ў тупік. Доўга так цягнуцца не можа. Без знешняй фінансавай падтрымкі рэжыму наканаваны крах.

Таму і замітусіўся прэзідэнт. Таму і паехаў на ярмарку ў Германію для сустрэч з «рэгіянальнымі» лідэрамі. Але ж нямецкія землі — гэта не расійскія рэгіёны, дзе камуністычная наменклатура авацыямі сустракае нашага прэзідэнта. І карысці ад гэтага падарожжа роўна столькі ж, як і ад вояжу ў Нагана — толькі выдаткі. Дарма скардзіцца прэзідэнт, што заходнія дэмакраты не лічацца з выбарам народа. Народ не выбіраў самаўлюбёнага дыктатара. Лукашэнка сам стаў тым, кім ён стаў.

Таму, каб прабіць міжнародную ізаляцыю і самазахавацца, прэзідэнт безумоўна пойдзе на выбары. Зразумела, што пры гэтым ён будзе хітрыць і імкнуцца падмануць усіх — і сусветную дэмакратычную супольнасць, і ўнутраную апазіцыю, прапануючы ёй не тыя выбары.

Практычна ўжо сёння А.Лукашэнка можа аб'явіць выбары ў нацыянальны сход. Папершае, таму, што гэты кішэнны орган не мае ніякіх рэальных паўнамоцтваў і нічога не вырашае. І няма розніцы, з якіх дэпутатаў ён утвораны — абраных адным Лукашэнкам ці ўсім народам. Па-другое, таму, што прэзідэнт не мае перад «палатнікамі» ніякіх абавязкаў. Пакольні навагт ён(!) мае права публічна абвінавадзіць іх у маральнай нячыстаплотнасці, у згодзе ўвайсці без выбараў у склад неканстытуцыйнага органа дзеля асабістай выгады.

Удзел апазіцыйных партыяў у такіх выбарах азначаў бы фактычнае прызнанне канстытуцыі-96 і вынікаў дзяржаўнага перавароту. На шчасце, дэмакратычныя партыі ўжо заявілі аб сваёй адмове ўдзельнічаць у выбарах у нацыянальны сход. Гэта азначае, што і група АБСЕ, мэта якой зблізіць пазіцыі беларускай улады і апазіцыі, не падтрымае гэткі план прэзідэнта. Думаю, што Лукашэнка разумее гэта. Таму ён рыхтуе і варыянт прэзідэнцкіх выбараў у 1999 г. і будзе выдаваць іх за датэрміновыя выбары і саступку міжнароднай думцы.

У гэтым варыянце ёсць вялікая спакуса для апазіцыі і найвялікшая небяспека. Фармальна такія выбары будуць адпавядаць патрабаванням растаптанай Лукашэнкам Канстытуцыі-94, легітымнасць якой дэмакратычныя партыі прызнаюць і фармальна адмаўляцца ад такіх выбараў не павінны. Ужо сёння чуваць галасы, якія заклікаюць рыхтавацца да кантролю за выбарамі, нават збіраюцца подпісы за іх правядзенне. Аўтары гэтых ініцыятыў, відаць, не разумеюць, наколькі яны падыгрываюць Лукашэнку, спрабуючы ўцягнуць апазіцыю ў пастку, ім падрыхтаваную.

Пры захаванні неабмежаванага кантролю над усімі галінамі ўлады і дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі, пры сённяшнім складзе выбарчых камісіяў і, галоўнае, пры гатоўнасці і магчымасці ажыццявіць любую фальсіфікацыю вынікаў галасавання, — удзел у такіх выбарах раўназначны самазабойству дэмакратыі. Іх непасрэдным вынікам можа быць толькі ўзаконенне канстытуцыі-96, бяспраўе парламента, прызнанне дыктатарскіх паўнамоцтваў прэзідэнта, далейшае аслабленне дэмакратычных сілаў і рост небяспекі інкарпарацыі Беларусі ў Расію.

Сапраўдным дэвізам такой кампаніі мог бы стаць кліч рымскіх гладыятараў: *«Ave, Caesar, morituri te salutant!»* — Жыві, Цэзар, тыя, што ідуць на смерць, вітаюць цябе!

Таму для апазіцыі няма іншай альтэрнатывы, як байкот выбараў на ўмовах Лукашэнкі.

З гэтага вынікае, што дэмакратычным партыям ні ў якім выпадку нельга самім ініцыіраваць прэзідэнцкія выбары ў 1999 г. Той, хто робіць першы крок, — прайграе. Наадварот, трэба прыгадаць сусветную практыку. Пераход ад дыктатарскіх рэжымаў да дэмакратыі ажыццяўляецца паступова. Свабодным выбарам папярэднічае перыяд, калі ад уладнага кантролю вызваляюцца СМІ, спыняюцца палітычныя рэпрэсіі, выбарчыя камісіі фармуюцца з удзелам апазіцыі, прымаюцца выбарчыя законы, якія ствараюць роўныя ўмовы для ўсіх, і г.д.

Для нас гэта абсалютна неабходна. Бо не трэба забываць, што існуючая выбарчая сістэма стварае прывілеі для прадстаўнікоў мясцовых уладных кланаў. Нагадаю: у складзе Вярхоўнага Савета і 12-га, і 13-га скліканняў адсутнічалі прадстаўнікі паловы мінскіх акругаў і многіх вялікіх гарадоў. Абодва гэтыя парламенты працавалі ў няпоўным складзе прыкладна на 25 працэнтаў!

Такі падыход да свабодных выбараў у Беларусі магчымы пры дзвюх умовах. Ініцыятыва правядзення выбараў павінна зыходзіць ад Лукашэнкі, а не ад апазіцыі. Гэта будзе сведчыць аб безвыходнасці для рэжыму і ягонай гатоўнасці зрабіць рэальныя саступкі. Па-другое, 30% дарослага насельніцтва сталіцы, як сведчаць сацыялагічныя даследаванні, выступаюць супраць існуючага рэжыму. Калі гэтыя 400 тысячаў чалавек выйдуць у Мінску на вуліцы, гэта стане самым важкім аргументам. Дыктатараў немагчыма пераканаць, іх можна толькі прымусіць. Негвалтоўныя масавыя акцыі пратэсту — адзінае, чаго баіцца рэжым і з чым ён справіцца не можа. Усіх не пераштрафуеш і не пазвальняеш з працы.

Бліжэйшай масавай акцыяй апазіцыі будзе Чарнобыльскі шлях 25 красавіка. Чарнобыль — гэта сімвал беларускага лёсу. Ён прыйшоў у кожны дом. Ад яго немагчыма схавацца і перачакаць. З ягонымі наступствамі трэба змагацца і працаваць. Аднак і самая старанная праца не дасць плёну, пакуль не скончыцца эра Лукашэнкі. Дапаможам жа прэзідэнту прыняць правільнае рашэнне.

Сёння важна адно. Праявіць цярпенне, патрабаваць і дамагацца лібералізацыі рэжыму. На вуліцах і на перамовах з Кансультацыйна-назіральнай групай АБСЕ. Плод павінны даспець. Беларускі народ ужо сыты па горла няспелай дэмакратыяй, якая ўвасабляецца ў адным чалавеку. Прэзідэнт замітусіўся. І гэта добрая прыкмета. Калі ж Лукашэнка не пойдзе на сапраўды свабодныя выбары, умовы для якіх павінны быць створаныя загадзя, то зробіць сабе толькі горш. Міжнародная ізаляцыя ўзмоцніцца, і рэжым раней ці пазней загіне пад уласнымі абломкамі.

